Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (280) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 9 ЛІПЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

## ДА 85-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЦЁТКІ



Паэтэса — рэвалюцыянерка Цётка

# ПАЭТЭСА РЭВАЛЮЦЫЯНЕРКА

Нарадзілася Алаіза Пашкевіч 15 ліпеня 1876 года ў вёсцы Пяшчаны, Лідскага павета, былой Віленскай губерні. Бацька яе быў заможным селянінам і нават карыстаўся працаю парабкаў. Пазней, калі паэтэса стала на шлях рэвалюцыйнай барацьбы, у яе з бацькам часта ўзнікалі канфлікты. Яна заклікала парабкаў бунтавацца супраць багацеям, патрабаваць у іх павышэння зарплаты.

Закончыўшы ў 1902 годзе прыватную гімназію ў Вільні і атрымаўшы дыплом на права выкладання арыфметыкі ў вясковай школе, Алаіза Пашкевіч едзе на працу ў вёску. Аднак будучую паэтэсу прыцягвае горад, жаданне больш глыбока пазнаць жыццё. Яна адчувае недахоп адукацыі. Таму ў хуткім часе Алаіза Пашкевіч едзе ў Пецербург, дзе паступае на агульнаадукацыйныя курсы прафесара Лесгафта.

Знаходжанне паэтэсы ў Пецербургу, горадзе, які называюць «калыскай рэвалюцыі», мела для яе рашучае значэнне. Сувязь з рэвалюцыйна - дэмакратычнай моладдзю Пецербурга дапамагло Цётцы ўсвядоміць, што рэвалюцыя ў краіне непазбежна, што толькі яна зможа асвабадзіць народы царскай Расіі ад бязлітаснага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. І калі ў 1904 г. Цётка вярнулася ў Беларусь, адразу ж пачала сваю рэвалюцыйную дзейнасць.

Вершы паэтэсы, якія былі напісаны пад уплывам падзей рэвалюцыі, поўныя нянавісці да самадзяржаўя. Яны прызываюць да знішчэння старога свету, да барацьбы за свабоду. У вершы «Хрэст на свабоду», напісаным як водгук на расстрэл мірнай дэманстрацыі 9-га студзеня, паэтэса развенчвае веру народа ў цара:

Дурняў хрысціць на свабоду.
Цар навуку даў народу,
Паказаў ім, як бы з неба,
Што больш цара не трэба!

У яркіх мастацкіх вобразах малюе паэтэса карціны народных пакут і паказвае, што чаша яго цярпення перапоўнілася, што яго гнеў справядлівы. Кожная страфа верша гучыць як прызыў да рэвалюцыі, да звяржэння самаўладства.

Многія вершы яе («Хрэст на свабоду», «Мора», «Ласы») Літоўская сацыял - дэмакратычная рабочая партыя друкавала як пракламацыі і ў тысячах экземпляраў распаўсюджвала сярод рэвалюцыйнага народа.

Цётка, зразумела, не ўзнялася да разумення ўсёй сутнасці буржуазна дэмакратычнай рэвалюцыі, не зразумела ўсяго непазбежнага пераходу яе ў рэвалюцыю сацыялістычную. Не разумела яна дакладна і ролі пралетарыяту ў барацьбе народа. Аднак многа ў паэзіі Цёткі гаворыцца аб тым, што яна ішла к правільнаму разуменню кіруючых сіл рэвалюцыі, што яна пачынала разумець значэнне гэтай новай сілы, якая нарадзілася і змацавалася на яе вачах. У вершы «Пад штандарам» паэтэса стварыла вобраз рабочага. Юнак - рабочы з чырвоным сцягам у руках адважна ідзе наперадзе калоны дэманстрантаў. Ён упаў, забіты варожай куляй, аднак чырвоны сцяг падхапілі другія моцныя рукі.

А народ і пяе,
Пад штандарам ідзе,
На варога — цара
Крэпку руку нясе.

(Працяг на стар. 3)

## 400 ГОД



Нядаўна ў Аўгустове адбыліся ўрачыстасці, звязаныя з 400-годдзем гэтага горада.
На здымку: Вулічны паход адкрываюць кароль Зыгмунт Аўгуст і каралева Барбара Радзівіл (на конях).
Фота: Я. Рыбінскі

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# Як найбольш пасадкі лесу, як найбольш азелянення

Пагаворка «нас не было — лес быў, мы жывем — лес жыве і нас не будзе — лес будзе» была выдумана нашымі прадзедамі, якім здавалася, што акружаючыя іх лясныя нетры ніколі не ўступяць перад чалавекам, ніколі не загінуць. Але чалавек аказаўся пераможцам. Дапамаглі яшчэ рознародныя катаклізмы і лясныя нетры сталі рэдкасцю. Свята ахоўваюцца сёння толькі астаткі даўніх пушчаў у выглядзе запаведнікаў. Наша Беласточчына, напрыклад, славіцца сваім Белавежскім запаведнікам не толькі ў Еўропе. Ды Беласточчына з'яўляецца зараз яшчэ ў шчаслівым палажэнні адносна лясных багаццяў наогул у параўнанні да ўсёй краіны і Заходняй Еўропы. Але, каб утрымаць гэтае шчасце (лясны прэстыж), неабходна сур'ёзная планавая гаспадарка над лясамі, неабходна дбаць аб прапорцыю між вырубкай лесу і яго пасадкай.

Маючы ўсё гэтае на думцы, я звярнуўся з некалькімі пытаннямі да надляснічага Сакольскага надлясніцтва з сядзібай у Копнай Гары, грам Пятра Платніцкага.

**— Цудоўныя сасновыя лясы мае ваша Сакольшчына. Праязджаючы, дзе ні дзе відаць маладую пасадку. Ці многа садзіце лесу?**

(Працяг на стар. 5)

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



НА СТАРЫМ СТАВЕ

фота: Г. Рагазінскі

# Да каго належыць Кувэйт?

Нямногім толькі здаецца, што пасля адмены брытанскага пратэктарата (19 чэрвеня 1961 г.) Кувэйт стаў незалежнай і самастойнай дзяржавай. У сапраўднасці ж у гэтым маленькім шэйханаце, уціснутым паміж Іракам і Саудаўскай Аравіяй, змянілася толькі форма каланіяльнага панавання. Зараз, замест брытанскага губернатара, знаходзяцца тут шматлікія саветнікі шэйха, якія надта ж неахвотна прызнаюцца да свайго сапраўднага грамадзянства. Тым не менш афіцыяльнае абнародванне незалежнасці Кувэйту выклікала на Блізкім Усходзе шмат здагадак аб магчымасці небяспечных у будучыні падзей. Толькі мінуў тыдзень пасля заявы Англіі, што яна вырашыла прызнаць незалежнасць гэтай краіне і падпісаць з ёю дагавор аб дружбе і абароне, як прэм'ер суседняй дзяржавы Ірака, Касем, сказаў даслоўна, што Кувэйт з'яўляецца неад'емнай часткай Ірака. Іракскі прэм'ер спаслаўся на часы атаманскай імперыі, калі Кувэйт уваходзіў у склад правінцыі Басра, якая сёння знаходзіцца ў межах Ірака. У 1899 годзе Кувэйт набыла Англія за 15 тысяч рупій. Сёння суседнім арабскім дзяржавам вельмі не падабаецца такая пазіцыя Ірака. Надта ж хацелася б Саудаўскай Аравіі бачыць у сваім складзе Кувэйт, а Аб'яднаная Арабская Рэспубліка баіцца, што ўключэнне Кувэйту ў склад Ірака павялічыць магутнасць Касема. Найбольш прадпрыймальнай аказалася Англія, якая накіравала ўжо ў Персідскі заліў свае ваенныя караблі.

Чаму ж такую вялікую ўвагу прыцягвае гэтая малая краіна, 20 тысяч кв. км. плошчы, а колькасць насельніцтва 180 тысяч? Вось таму, што Кувэйт мае нафту. У мінулым годзе ён здабыў каля 70 мільёнаў тон. Для параўнання падаем, што Румынія здабыла ў 1960 годзе 12 мільёнаў тон. Амерыканская і брытанская нафтавыя таварыствы, якія маюць канцэсіі на здабычу гэтай каштоўнай сыравіны ў Кувэйце, плацяць штогод шэйху каля мільярда долараў, дасягаючы ў той час значна большыя даходы.

Нягледзячы на тое, якія будуць вынікі гэтага канфлікту, Кувэйт на даўжэйшы час астанецца небяспечным ачагом на Блізкім Усходзе. Правільна пісала нядаўна адна з ліванскіх газет, што «дамаганні ў адносінах да Кувэйту пахнуць нафтай».

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# ЭКСКУРСІЯ Ў ПОЗНАНЬ

Заўсёды ініцыятыўны старшыня Прамыслова - Гаспадарчага Праўлення, «Betesca» Пятро Ластаўка заслугоўвае на пахвалу за арганізаванне сваім працаўнікам і працаўнікам Таварыства экскурсіі ў Познань на XXX Міжнародны Кірмаш.

Адлегласць з Беластока ў Познань даволі вялікая. Па дарозе кароткі адпачынак у памяшканні Варшаўскага Аддзела БГКТ. Раніцай аўтобус папоўніўся экскурсантамі з Варшавы і адправіўся ў далейшую дарогу. З неба адплылі астаткі хмар апошніх дажджлівых дзён і заззялі яркія прамені ўзыходзячага сонца. Свежае паветра выцягвала з цела стому і адганяла ад вачэй сон пасля няпраспанай ночы. Настрой быў добры. Вузкай, звілістай стужкай асфальтавай шашы плылі непрарыўным патокам у напрамку Познані аўтобусы, легкавыя машыны, матацыклы.

Набліжаўся Познань. Паявіліся на гарызонце высокія дымучыя коміны пазнаньскіх фабрык. Неўзабаве праглынуў нас вулічны натоўп. Прабірацца наперад было даволі цяжка, а неўзабаве зусім немагчыма. Аставіўшы аўтобус вось так проста на вуліцы ўласнымі локцямі церабілі мы сабе дарогу на кірмаш. Білетавыя касы працуюць тут надта спраўна. Апынуліся мы на цэнтральнай гандлёвай плошчы, дзе на высокіх мачтах луналі рознакаляровыя сцягі 57 краін свету — удзельнікаў юбілейнага XXX Міжнароднага Кірмаша.



**XXX Пазнанскі кірмаш наведалі Уладзіслаў Гамулка і Юзэф Цыранкевіч. Бачым іх у Савецкім павільёне.**

Распачынаем шматкіламетравы шпацыр па павільёнах, у якіх сабрана найлепшыя вырабы людской думкі і працы, прапанаваныя на продаж у карысць чалавеку, для яго лепшага, міprнага жыцця.

Перш за ўсё накіроўваем свае крокі ў павільён Савецкага Саюза. Пры ўваходзе ўсміхаецца да нас з пляншэта першы касманаўт Юры Гагарын. Спутнікі нарадзіліся пад зямлёю. Натуральныя багацці СССР, база магутнага развіцця прамысловасці — гэта аснова касмічных дасягненняў. Нікога тады дзіўнага, што важнымі элементамі савецкай экспазіцыі з'яўляюцца навейшыя горнапрамысловыя машыны. Зразумелае зацікаўленне выклікаюць прылады атамнай эпохі: да вымярэння ступені забруджвання паветра, да даследвання выпраменьвання сонца і іншыя. Аглядаем вырабы дакладнай і аптычнай прамысловасці, навуковай і медыцынскай апаратуры. Праходзім да часткі павільёну занятай прадметамі шырокага ўжытку. Радыёапараты, тэлевізары. халадзільнікі, пыласосы, пральныя машыны і розныя дамашнія дробязі. Нельга не звярнуць увагі на багатыя футры, фільмовыя камеры, фотарэпарцёрскія тэлеаб'ектывы (з адлегласці аднаго кіламетра фатаграфуюць тэкст газеты), вырабы народнага мастацтва.

Перад выхадам поўныя зайздрасці погляды накіроўваюцца на люстраную легкавую машыну «Чайка» і малалітражны «Запарожац», які спальвае толькі 5.5 літраў бензіну на 100 кіламетраў.

Амаль дзве трэція абароту замежнага гандлю Польшчы прыпадае на сацыялістычныя краіны Еўропы і Азіі. Таму павільёны нашых сяброў выклікаюць у Познані асаблівае зацікаўленне.

Што другі год прымае ўдзел у пазнаньскім кірмашы Кітайская Народная Рэспубліка, якая мілёвымі крокамі адрабляе гаспадарчую адсталасць. Таму побач з мастацкімі вырабамі кітайскіх рамеснікаў экспануюцца машыны і прамысловае абсталяванне.

Павільёны Чэхаславакіі і Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі з'яўляюцца найбольш разнастайнымі. Цяжкія і найцяжэйшыя машыны, матарызаваны састаў, сельскагаспадарчыя машыны, вырабы лёгкай прамысловасці. Першы раз экспануецца новы, прыгожы мадэль чэшскай «Сходы» — «Актавія».

Румынія прадстаўляе свае экспартовыя магчымасці толькі пры дапамозе пляншэт і фатаграфіі. Балгарыя перш за ўсё прапануе вырабы электратэхнічнай прамысловасці, а таксама традыцыйна-спажывецкія артыкулы. Добра экспанавана калекцыя народнага мастацтва.

Багатым і разнастайным з'яўляецца павільён Венгерскай Народнай Рэспублікі. Знаходзяцца тут у першую чаргу вырабы дакладнай і электранічнай прамысловасці, лабаратарыйная і вымяральная апаратура. Перад павільёнам — транспартныя машыны, між іншым вядомыя ў нашай краіне аўтобусы «Ікарус».

У экспазіцыі капіталістычных краін кідаецца ў вочы магутная выставачная дынаміка Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і Італіі. Экспазіцыі Англіі і Францыі выглядаюць больш скромна чымсьці ў папярэдніх гадах. Хаця Францыя займае вялікую плошчу — 1750 кв. м. большасць фірм выстаўляе славутыя французскія віны і парфумерыю.

Экспазіцыя Злучаных Штатаў Амерыкі ў гэтым годзе побач з гандлёвымі элементамі мае больш выставачны характар.

(Працяг на стар. 4)




**Вайна. Мінай выклікалі ў райком. Атрымаўшы заданне арганізацыі партызанскага атрада, вяртаецца дамоў.**

Ля грузавіка таўкліся дзеці. Наймалодшы — двухгадовы здаравяка з свавольнымі карымі вачыма і смуглым вясёлым тварам — забраўся ў кабіну. Ён націснуў чорную кнопку сігнала — і сам злякаўся, пачуўшы хрыплы гудок.

— Не дурэй! Татка дасць табе, — крыкнула на брата сямігадовая Зіна, такая ж чарнавокая і смуглая, як і Міша.

Дзяўчынка ўжо даўно падрыхтавалася да ад'езду: склала свае рэчы, не забыўшы ні лялек, ні перакладных карцінак, і цяпер з нецярплівасцю чакала пачатку далёкага, цікавага падарожжа.

10

Ліза, найстарэйшая, была сумная і маўчала. Яна з трывогай прыслухоўвалася да аддаленай артылерыйскай стралянiны, разумела, што ехаць неабходна, і ў той жа час ёй было вельмі цяжка развітвацца з бацькам, са школай, з усім, да чаго тут прызвычаілася з дзяцінства.

А Сярожа, адзінаццацігадовы бледны хлапец з рэдкім рабаценнем на запалых шчаках, даведаўшыся, што трэба складаць рэчы, залез у карчы бэзу і доўга плакаў там.

Сонца ўжо сядала, калі з чамаданамі ў руках паказаўся Мінай. За ім ішоў шафёр з агромным клункам на плечах і нізкарослая, здалёк падобная на падростка Анна, сястра Міная.

Міхась, убачыўшы бацьку, вылез з кабіны.

— Ура! Едзем! — пачаў скакаць ён, падцягваючы нагавіцы.

Ліза лёгкім крокам падышла да бацькі:

— Ужо пара, татка?

— Пара, дачушка... Ночы цяпер

11

кароткія, : вам трэба паспець ад'ехаць як можна далей.

Мінай застаўся адзін. Доўга стаяў ён, прыгнечана прыслухоўваючыся да заміраючага шуму матора, накенец памалу паплёўся ў хату.

Ноччу да яго прышоў экспедытар фабрыкі Майсей Кац. Дзве нядзелі назад Мінай адпусціў яго ў Віцебск, да сям'і, і цяпер са здзіўленнем спытаў:

— Чаму вярнуўся?

— Разбамбілі кватэру.

— А сям'я?

— Жывыя, пакуль жывыя.

— Дзе жонка і дзеці?

— За пасёлкам, на колах: эвакуіруемся.

— Чаму ж спыніліся?

— Дэзерціраў асцерагаемся.

— Дэзерціраў? Скуль яны ўзяліся?

— А я ведаю? І Васька Фаменкаў з імі. За галоўнага ў іх. Лазіць між вазамі, чужое барахло разглядае, пагражае...

— Фаменкаў? Дык мы ж яго ў армію правялі!

12

— Ён з гарадка ўцёк.

Мінай паабяцаў высвятліць, што там за дэзерціры, і, супакоіўшы Каца, адправіў яго да сям'і. Але раніцай Майсей зноў прыбег у кантору. Сарочка на ім была парваная, пад вокам цямнеў сіняк.

— Мінай Піліпавіч, — закрычаў ён з парога, — няўжо ў нас няма больш савецкай улады?

— Не пляці глупстваў! Гавары толкам: што здарылася?

— Забіць мяне хацелі, вось што! Фаменкаў са сваёй бандай.

Мінай выклікаў Шкрэду, Галубава, Абраменку, коратка загадаў:

— Арыштуйце Фаменкава.

Фаменкаў увайшоў з наглай усмешкай, стаў пасярод кабінета, залажыў рукі за спіну, пагардліва спытаў:

— Чаго, Мінай, вар'яцееш? Ці канец свой чуеш?

Шмыраў стрымаўся, не ўдарыў, хоць і вельмі хацелася ўдарыць гэтага падлюгу. Павярнуўся да Шкрэды і загадаў:

13

# НЕ КАРМІЦЕ МАЛЮТАК ТОЛЬКІ МАЛАКОМ!

Сярод дзяцей, асабліва вясковых, шмат захворванняў рахітам (кшывіцай). Прычынай гэтай небяспечнай хваробы з'яўляецца перш за ўсё несвядомасць матак.

Рахіт, альбо як у нас называюць, ангельская хвароба, з'яўляецца вынікам няправільнага кармлення дзіцяці!

Дзеці на вёсцы надта доўга кормяцца выключна грудзьмі і выключна малаком. У першым перыядзе свайго жыцця дзіцё перажывае найхутчэйшае развіццё. На працягу першых шасці месяцаў жыцця яны падвойваюць сваю вагу, а на працягу першага года жыцця — патройваюць. Таму ад першага месяца жыцця пажадана даваць дзецям сокі, ад трэцяга месяца — супы з агародніны, а ад пятага месяца жыцця суп вараны на мясе.

Гэта не значыць, што не трэба карміць дзіцё грудзьмі. Трэба, абавязкова трэба. Толькі нельга забываць, што ежа не павінна быць аднастаронная.

Дзеці, кормленыя толькі малаком, пераважна бываюць анемічныя, таму што малако мала мае ў сабе жалеза і мінеральных солей.

Трэба адзначыць і тое, што найбольш падатлівыя на захворванне рахітам дзеці, якія нарадзіліся ў восені. І гэта не выпадкова. Восенню дні кароткія, набліжаецца зіма, менш святла, дзеці менш прабываюць на свежым паветры.

Рахіт — гэта захворванне ўсяго арганізма. Для правільнага развіцця касцявой тканкі і нармальнай работы нервовай сістэмы вялікае значэнне маюць мінеральныя солі фосфара і кальцыя. Каб арганізм засвойваў гэтыя солі з ежы, неабходны вітамін Д. Калі яго ў арганізме не хапае развіваецца рахіт.

Захворванне пачынаецца паступова. Дзіця становіцца нервовым, часта плача без дай-прычыны. Сон робіцца неспакойным. З'яўляецца павышаная патлівасць, асабліва галоўкі. Пот выклікае свярбенне скуры, дзіця трэцца галоўкай аб падушку, што вядзе да аблысення патыліцы.

Праз два — тры тыдні з'яўляецца размякчэнне касцей чэрапа, галоўка прымае няправільную форму. Калі дзіця, якое хварэе на рахіт, пачаць саджаць раней часу, косці хрыбетніка скрыўляюцца і ўтвараецца рахітачны горб. З'яўляецца скрыўленне касцей ног, рук, таза, грудной клеткі. Прарэзванне зубоў запозніваецца. Мышцы страчваюць пругкасць і становяцца расслабленымі і вялымі. Жывот у дзіцяці робіцца вялікі і адвіслы. Рахітачныя дзеці бледныя. Яны часта хварэюць на запаленне лёгкіх і бранхіт, якія ў такіх дзяцей працякаюць цяжка і зацягваюцца.

Хворыя на рахіт дзеці развіваюцца больш марудна, чым здаровыя: пазней пачынаюць гаварыць, садзіцца, хадзіць.

Звычайна дзеці нараджаюцца з некаторым запасам вітаміна Д, які яны атрымліваюць ад маці. Вельмі важна, каб у час цяжарнасці жанчына атрымлівала ежу, якая мае вітамін Д, — сметанковае масла, яйкі, ікру. Будучая маці павінна на працягу апошніх двух — трох месяцаў цяжарнасці спецыяльна прымаць вітамін Д у выглядзе рыбінага тлушчу (па дзве сталовыя лыжкі ў дзень).



З маленькімі дзецьмі неабходна часта наведваць парадню «Д»

Грудное дзіця не атрымлівае з ежай вітаміну Д, а патрэба ў ім вялікая, таму неабходна даваць яму рыбі тлушч або вітамін Д.

Узнікненню рахіту ў дзяцей спрыяе парушэнне рэжыму, перанесеныя захворванні, а таксама дрэнныя абставіны, у якіх жыве дзіця. Дзеці, якія жывуць у сырых пакоях, што кепска праветрываюцца, часцей хварэюць на рахіт. Ежа дзіцяці таксама павінна адпавядаць узросту. Прыкорм у выглядзе малака і маннай кашы не папярэджвае развіццё рахіта. Дзіцяці абавязкова трэба даваць працёртую гародніну і фрукты, у якіх утрымліваюцца неабходныя для арганізма мінеральныя солі.

З 6—8-месячнага ўзросту дзіця павінна атрымліваць сметанковае масла і яечны жаўток, багаты вітамінам Д. Затым можна даваць печань, ікру, селядзец.

Асаблівае значэнне для папярэджання рахіта мае знаходжанне на свежым паветры.

Восенню і зімою, улічваючы малую колькасць сонечных дзён, дзецям неабходна даваць вітамін Д. Трэба ўлічваць, што рыбі тлушч, акрамя вітаміна Д, утрымлівае вітамін А. Рыбі тлушч добра засвойваецца і карысны для арганізма. Спачатку яго пачынаюць даваць 2—5 кропель, даючы кожныя тры дні па 2—3 кроплі, і даводзяць да 2-х чайных лыжак у дзень. Старэйшым дзецям можна даваць па тры чайныя лыжкі ў дзень.

Бытуе думка, што рыбі тлушч можна даваць толькі восенню і зімою. Гэта далёка не так. Летам рыбі тлушч даваць можна і неабходна, але толькі пры ўмове правільнага яго захоўвання ў халодным і цёмным месцы.

Прэпарат вітаміна Д назначаецца ўрачом. Карысна ў зімовы час абпраменьваць дзяцей ртутна-кварцавай лямпай.

Такім чынам правільнае ўскармліванне дзіцяці, шырокае выкарыстанне святла, паветра, захаванне рэжыму, адпаведнага ўзросту, своечасовае ўжыванне рыбінага тлушчу і вітаміна Д — вось асноўныя ўмовы папярэджання захворвання рахітам.

## НАВІНЫ ТЭХНІКІ



На англійскай цеплаэлектрастанцыі Торпе Морч непадалёк горада Донкастера ўстанавілі турбагенератар рэкорднай магутнасці — 550000 кілават у блоку з паравым катлом небывалай выпрацоўкі — 1700 тон пары ў гадзіну.



У Амерыцы вынайшлі і выпусцілі ў продаж запасныя калёсы, якія маюць разам з балонам усяго толькі два сантыметры таўшчыні. Гэта тонкі стальны ліст, па акружнасці якога наглуха прымацавана тонкасценная, гібкая, у ненадутым выглядзе, плоская, гумовая шына.

Надуванне шыны праводзіцца пры дапамозе «патрона» маленькага балончыка са сціснутым паветрам. Такое запаснае калясо вельмі лёгка накладаецца, займае зусім мала месца, але забяспечвае дастаткова вялікі прабег аўтамабіля да замены яго сапраўдным калясом, а менавіта — не менш як 300 кіламетраў. Гэта вельмі выгадна шафёрам, калі ў дарозе выйдзе са строю калясо.

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

■ На Галапагоскіх востравах, якія знаходзяцца ў берагоў Эквадара, жывуць чарапахі-гіганты вагой да 400 кілаграмаў. Даўжыня некаторых з іх даходзіць да паўтара метра. За чарапахамі ахоцяцца дзеля іх мяса і тлушчу. Іспанскае слова «галапогос» у перакладзе азначае «чарапаха».

■ Бліжэй экватара ўсе рэчы менш важаць чым непадалёк полюсаў. Паравоз, які важыць у Маскве 60 тон, становіцца пасля прыбыцця ў Архангельск на 60 кг цяжэйшы, а ў Адэсе — на столькі ж лягчэйшы. Недахоп вагі абумоўліваецца кружэннем зямлі. Яно памяншае вагу цела непадалёк экватара амаль што на 1/290 долю ў параўнанні з вагай таго ж цела ля полюсаў.

■ На працягу сямігодкі ў СССР значна пабольшыўся выпуск аўтамабіляў розных відаў. Калі ў 1958 годзе з дзвярэй аўтамабільных заводаў амаль кожную мінуту выязджала новая машына, што за суткі давала больш 1.400 штук, дык у 1965 годзе штодзённа будзе вырабляцца 2.345 аўтамабіляў.

■ На востраве Кільдыне ў Мурманскага пабярэжжа існуе невялікае возера. Плошча яго ўсяго 100 квадратных метраў, а глыбіня 17 метраў. Вада ў ім раздзяляецца на тры «паверхні». Верхні складаецца з прэснай вады, сярэдні з салонай марской, ніжні з вады, насычанай серавадародам. Слаі вады ў возеры ніколі не змешваюцца.

## МОДА





АБ ЧЫМ ДОБРЫ ГАСПАДАР ВЕДАЦЬ ПАВІНЕН

## ШТО ДАЕ МЕХАНІЗАЦЫЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Яна ашчаджае людскі час і сілы, бо адна машына замяняе працу многіх людзей і робіць гэта значна хутчэй.

Прыклад: ЗША маюць 180 мільёнаў жыхароў, Польшча — 30 мільёнаў. У сельскай гаспадарцы і ў Польшчы, і ў ЗША працуе аднолькавая колькасць людзей — каля 7 мільёнаў. Значыць, каб выкарміць сваю краіну ў нас патрэбна 1/4 усяго насельніцтва, а ў ЗША — 1/25.

Чаму гэта так? Толькі таму, што амерыканская сельская гаспадарка моцна **змеханізаваная.** У Германіі і Чэхаславакіі заўважаем падобныя з'явы.

Механізацыя сельскай гаспадаркі дае і іншую яшчэ карысць. Менавіта, пры застасаванні машын можна хутка выконваць палявыя працы ў адпаведным тэрміне. Напрыклад, камбайн адразу выконвае некалькі прац: жне, малоціць, прасуе салому, а можа разам і араць. А, падчапіўшы за плугам барану, і баранue. Да трактара можна прычапіць тры сеўнікі і работа кіпіць.

Як з гэтага відаць, будучыня сельскай гаспадаркі ў механізацыі. Але цяжка гаварыць аб **агульнай** механізацыі н а ш а й сельскай гаспадаркі, пакуль нашы сяляне не зразумеюць, што дробныя аднаасобныя гаспадаркі з'яўляюцца ворагамі механізацыі. Машыны могуць працаваць толькі на вялікіх зямельных абшарах. А такія магчымасці даюць спулдзельні прадукцыйныя і сельскагаспадарчыя гурткі.

вл.




## У АФРЫЦЫ



ІМПАРТ — даўней...



ЭКСПАРТ — сёння



Жартаўнік




### ПАН І КУХАР

Раз панскі кухар падаў на стол гуску з адною нагою. Другую ён сам з'еў. Спытаў пан кухара, дзе другая нага. Кухар сказаў, што гуска мела адну нагу.

Не паверыў пан і загадаў кухару, каб той паказаў жывыя гусі аднаножкі.

Паехаў кухар з панам шукаць гусак аднаножак. Едуць яны каля замёрзлага возера, а на ім гусі стаяць, на адной назе, а другую хаваюць ад холаду.

Кухар кажа: — вось тыя гусі аднаножкі.

Пан свіснуў і спалоханыя гусі сталі на абедзвюх нагах.

— Бачыш дурню, ці ж ім бракуе другой нагі?

Кухар спакойна кажа: — каб вы, пане, свіснулі тады, калі я гуску падаў на стол, то напэўна і ў яе была б другая нагэ

**Ваня Бура**
Тарнопаль

### У САДЗЕ

Садаўнік злавіў Янку на дрэве, як ён ірваў яблыкі.

— Што? Такі малы і ўжо ўмееш красці?! Пойдзем да твайго бацькі.

— Дзядзька, калі мой тата ящчэ на дрэве сядзіць.

**Віктар Вішнеўскі**
Рыбалы

### НІЧЫМ НЕ ДАГОДЗІШ

Жыў у вёсцы адзін селянін. Не сяброўскі быў гэта чалавек. Усім ён пярэчыў. Тое яму нядобра, гэтае няладна. Нічым яму не дагодзіш. Надумалі аднойчы суседзі даць яму па каробцы аўса.

— Калі дамо — думалі, — можа ён хоць за гэта нам дзякуй скажа.

Прынеслі чалавеку авёс, а ён кажа:

— Ну што ж, прыняў я ад вас па каробцы аўса. Не супраць і дзякуй сказаць, але хто яго ведае: пасею я ваш авёс, а раптам яго градам паб'е.

**Рыгор Дзмітрук**
Дубічы - Тафілаўцы

### ПАМІЖ СУСЕДКАМІ

— Ой, як мне баліць правая нага, — скардзіцца суседка суседцы.

— Гэта, — кажа ёй суседка, — вынік старасці.

— А ці ж мая правая нага старэйшая за леву? — спытала тая.

**Юрка Скепка**
Альхоўка.

### КУРЫЦА НАЙЛЕПШАЯ

На ўроку біялогіі настаўнік запытаў вучняў:

— Якая птушка найбольш надаецца для ежы?

— Курыца, адказаў Алесь.

— Чаму?

— Таму, што курыцу можна есці перад яе нараджэннем і пасля яе смерці.

**Аляксей Шаховіч**
Сакі



Пацеха бацькоў



Хто каго?

### АСЦЯРОЖНЫ

У рэстаране наведвальнік пытае афіцыянта:
— Чаму вы так асцярожна несяце гэтую катлету?
— А, бо яна мне, паганая, ужо два разы ўпала на падлогу.

**Валя Янюк**
Барысаўка.




Пад вечар да пана па выплату
Сяляне ўвайшлі ў хату.
Стаяць, гавораць ля парога,
Тым часам пан аднаго, другога
Ад грамады ў пакой пакліча,
Загляне ў кніжку, грошы зліча,
Аддасць, як трэба, усе ў парадку...
Але натрапіў на загадку.
Якраз Рыгору, як на тое,
Замест шэсць дзён, злічыў пан трое.
Рыгор па-свойму рахуе
Тры злоты болей, а пан злуе,
Аж кроў ударыла да твару.
Пан на нос ўсунуў акуляры,
Стаў лепей у кніжку ўглядацца
І сціх і перастаў спрачацца.
А па выплаце пазваў Грышку
Зрабіць на згоду па кілішку.
І сербануўшы трохі гары
Рыгор хваліць стаў акуляры.
Нарэшце так адбарабаніў
(Хмель быццам розум затуманіў):
Эх, дай жа Божа, мой паночку,
Здароўя гэтым шкляным вочкам.
Лепш панскіх свецяць, каб не зглазіць,
А тыя хай хоць павылазяць.

**Аляксандр Макаль**
Крушыняны.




— Грамадзяне вясковыя! — звярнуўся Кастусь да сабраных. — Ведаеце вы нешта аб газаправодзе «Дружба»? Не дачакаўшыся ніякага адказу, Кастусь выясніў:

— Газапровод гэты, як выцягнутая кішка. Працягнуўся ён на 4 тысячы кіламетраў. Ад звілікай рускай ракі Волгі пралеглі яго трубы да беларускага горада — Мозыра і тут падзяліліся на два рукавы. Адзін з гэтых рукавоў бяжыць да чэхаў і венграў, а другі да нас і немцаў. У горадзе Плоцку будуецца газаперагонны завод, дзе чорнае золата — газа, будзе перапрацоўвацца на бензін, нафту і іншыя араматныя творы.

— Вось лоўка лжэ, — пачуўся голас. — Чатыры тысячы кіламетраў, і каб трубы не працякалі на кожным кіламетры. Дзе ж гэта бачана?!

— У якога гэта разумнякі трубапровод не ўкладваецца ў галаве?! — грозна спытаў Кастусь.

Калі прысутныя прыціхлі, ён прадажваў:

— Ад нашай вёскі да малочнага пункта ўсяго два кіламетры. Эх, пралажыць бы нам трубапровод і паплыло б малачко ў пункт. Вазіцца з ім людзі перасталі б.

Пачуўшы гэтую прапанову, людзі загулі, як у вулеі. Пасыпаліся пытанні. Кастусь адказваў на ўсё, быццам галоўны інжынер трубапровода. Прапанову Кастуся прынялі і хутка ўсёй вёскай капалі роў і ўкладвалі ганчарныя трубы. Не прайшоў і месяц, як малако пацякло ў малочны пункт.

Але пры першым падліку аказалася нястача малака.

— Мабыць крадуць на малочным пункце, — рашылі сяляне.

— Ад нашага малака млосна зробіцца машэннікам, — пагражаў Кастусь. Ён хутка арганізаваў дзяжурства на малочным пункце. Дзяжурныя запісвалі літры, а малака ўсё ж не хапала.

— Трубапровод недзе працякае, — падумаў Кастусь. Але па вёсцы пайшоў слых, што Зінка Рак хвалілася: карову, маўляў, прадалі, а малака ў іх — хоць купайся. Праверылі. Аказалася, што стары Рак прыссаўся да трубапровода і хлепча малако, быццам воду з ракі. Адчапілі Рака. Пацякло малако трубапроводам шпарчэй і... зноў нястача.

Людзі хвалююцца, а Кастусь лічыдлам шчоўкае. Пасля падлікі ўсім прачытаў. Выходзіць, што цётка Марта, якая мае адну задрыпаную кароўку, зліла малака за тры каровы. У Даркі дзве каровы, а здала малака за пяць найлепшых рэкардзістак. Па ліках Кастуся выходзіць, што нашым малаком можна было б запоўніць гіганцкі трубапровод «Дружба». Праз гэтае рахункаводства трубапровод мы хутка ліквідавалі.

Як бачыце, людзі добрыя, не дараслі мы яшчэ да сучаснасці. Як жа тады будзем разлічвацца за нафту ў Плоцку, ніяк не пайму. Калі мы з белым малаком на двух кіламетрах заблыталіся, то як з чорным газам на 4 тысячах кіламетраў выйдзе? Адна толькі надзея, што наш Кастусь дапаможа газапроводу «Дружба».

*Дзядзька Лявон*